ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 38 5 кастрычніка 1995 г.
(2440) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

ДЗЯРЖАЎНАМУ ЛІТАРАТУРНАМУ МУЗЕЮ ЯНКІ КУПАЛЫ – 50 ГАДОЎ

## БАЖНІЦА КУПАЛАВА ДОМУ

*Стаім мы перад будучыняй нашай*
*І ўсё варожым, сочым ейны ход...*

**Янка КУПАЛА.**

У восеньскай беспрытульнасці самотна кружляе адзінотны лісток, састарэлы, змораны. Падумалася суцешна: ён шукае сваё гняздо, дом свой шукае ў бязмежнасці свету. Адарваны ад галінастай кроны магутнай сілаю часу, адасоблены ад камля-асновы, маленькі адхілы атам памяці, лісток ляжа на дол, як сыходзім усе мы, жывыя істоты зямныя, у ціхую нябытнасць. Сыходзім, каб немінуча вярнуцца і зноў ладаваць утульнае цёплае жытло -- дом. Сыходзім, а дамы нашыя, хаты родныя застаюцца і прымаюць новых насельнікаў -- паязджанаў сусветных, і развітваюцца аднойчы з нашымі дзецьмі, каб калыхаць унукаў. Хаты нашыя -- зыбкі ў спрадвечнай мітусні і калатнечы будняў -- ці не самыя верныя і самыя адданыя зберагальнікі спадчыны?! У дамах нашых планетных не сціраюцца нашыя пазнаксляды, не знікае колішні дотык даланёў, не выдзімаецца подых наш гаспадарскі. У хатах нашых нерушна жыве часцінка душы, нібыта праменьчык танюткі, што пранізвае залатою ніцінаю чуйную прастору чалавечага часовага. І жудаснай змярцвеласцю пахне ад кінутых сляпых хацінаў і астылых печаў, ад нямых калодзежных жураўлёў і збур'янелых палеткаў. Жахам бяспамяцтва пахне, бязвернасці схаладнелай. Схавацца хочацца пад ціхі дах старое прадзедавай хаты ці хоць бы ў каменныя сцены сённяшніх нашых кватэраў-прыстанкаў. Схавацца і адкаснуцца, учапіцца за ўратавальнае валаконца родавай повязі.



**НА ЗДЫМКУ: музей Ян... [illegible] ...ПАЛЫ ў Мінску.**

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

"КЕНТ" – САВЕЦКІ РАЗВЕДЧЫК АНАТОЛЬ ГУРЭ...

## ДОЎГАЕ ВЯРТАННЕ

**Анатоль Маркавіч Гурэвіч. Ураджэнец Віцебскай вобласці. Савецкі разведчык, у гады вайны ён знаходзіўся за мяжой на нелегальнай рабоце. У перапісцы з "Дырэктарам" -- начальнікам Разведупра -- ён карыстаўся псеўданімам "Кент". Тэрмін даўнасці дазваляе ўзняць заслону тайны над некаторымі старонкамі яго незвычайнай біяграфіі, сказаць праўду аб тым далёкім часе, падзеях, удзельнікам і сведкам якіх ён стаў.**

**Доўгія гады ён жыў, змушаны маўчаць пра сваё мінулае. У свой час "Кенту" загадалі: пра ўсё ўбачанае і пачутае за мяжой і дома -- нікому ні слова. Але час бярэ сваё...**

**У першых шэрагах барацьбітоў-антыфашыстаў былі, несумненна, героі "Чырвонай капэлы". Але вось парадокс: савецкая разведка ніколі не стварала ніякай арганізацыі пад такой назвай. Не называлі сябе так і самі падпольшчыкі, і іх сябры.**

**Тым больш не было кіраўніка ці якога-небудзь шэфа "Капэлы".**

**Для барацьбы супраць многагалосых радыёперадатчыкаў, што загучалі з моманту нападу Гітлера на Савецкі Саюз, фашысцкае кіраўніцтва, ачуўшыся ад нечаканасці, стварыла спецыяльную каманду, у якую ўвайшлі контрразведчыкі, следчыя, сышчыкі гестапа, радысты і дэшыфравальшчыкі абвера. Кодавай назвай зондэркаманды і заведзенай ёю справы "аб змове і дзяржаўнай здрадзе" сталі словы "Чырвоная капэла".**

### АСОБАЕ ЗАДАННЕ

У красавіку 1939 года "Кент", наведаўшы папярэдне шэраг еўрапейскіх краін, перайшоў бельгійскую мяжу. 17 ліпеня ён зарэгістраваўся ў Бруселі па пашпарту N 4649, выдадзенаму на імя ўругвайскага грамадзяніна Венсена Сьеры. Пашпарт быў выпісаны 17 красавіка 1936 года ў сталіцы Уругвая і не выклікаў ніякіх падазрэнняў у бельгійскіх пагранічнікаў.

Менш чым праз год, у маі 1940 года, "Кент" у прысутнасці прадстаўніка Цэнтра прыняў кіраўніцтва бельгійскай групай. Да гэтага яе ўзначальваў Леапольд Трэпер -- "Ота".

Раптоўны і сакрушальны ўдар фашысцкага вермахта па Бельгіі і яе акупацыя значна ўскладнілі становішча і ўмовы работы разведчыка. Неабходна было стварыць новае прыкрыццё, "дах", з дапамогай якога можна было растлумачыць паходжанне яго сродкаў, атрымаць магчымасць свабодна перамяшчацца і наладжваць неабходныя сувязі. Такім "дахам" магло стаць камерцыйнае



прадпрыемства. Так з'явілася на свет экспартна-імпартнае акцыянернае таварыства "Сімекска", прэзідэнтам якога стаў "Кент".

Іншы раз пра разведчыка гавораць: і адзін у полі воін. Гэта справядліва, але толькі часткова. Разведчык у тыле праціўніка падтрымлівае сувязь з Цэнтрам, старанна маскіруючы і аберагаючы яе. Ён канспіратыўна сустракаецца з калегамі, калі гэта санкцыяніравана, кіруе сеткай аператыўнай агентуры і асабліва даражыць крыніцамі інфармацыі. Увогуле, атрымліваецца грунтоўная гаспадарка. Так было і з "Кентам". Ён сам спачатку падтрымліваў радыёсувязь з Цэнтрам. Потым радыстам рэзідэнтуры стаў афіцэр ваеннай разведкі Міхаіл Макараў, па пашпарту -- уругваец Карлас Алама, па псеўданіму -- "Хемніц".

**(Працяг на 3-й стар.).**

## ДУХОЎНЫ ГЕНАТЫП БЕЛАРУСА Ў ТРАДЫЦЫЙНАЙ І СУЧАСНАЙ КУЛЬТУРЫ

Беларуская этнахарактаралогія пакуль што ў зародкавым стане. Для вызначэння асноўных рысаў, уласцівых нашаму этнасу, звычайна выкарыстоўваюцца "погляды збоку".

Беларусаў лічаць простымі да наіўнасці, адкрытымі, добразычлівымі, даверлівымі, шчодрымі, гасціннымі, незлапамятнымі, міралюбівымі... Што ж, на гэта ёсць прычыны. Прастора, якую насяляе наш народ, з усіх бакоў адкрытая, раўнінна-нізінная. Глебы -- урадлівасці не надта высокай, але і бясплоднымі назваць іх грэх. Кожны, хто прыходзіў на гэтую зямлю з добрымі намерамі, заўжды мог знайсці прытулак, атрымаць хлеб ды і ўсё астатняе, Богам дадзенае тутэйшаму люду. Умераныя магчымасці глебы спрыялі фарміраванню сціпласці, непераборлівасці і працавітасці, дзякуючы якім можна было здабыць сродкі існавання, на чужое не квапячыся. У апошні час (як правіла, з боку радыкальна настроеных палітыкаў) жорстка крытыкуецца беларуская талерантнасць, згодалюбнасць. Ды хіба магло выявіцца штосьці іншае пры тым гістарычным коне, які выпаў (прота) беларусам? Прымаючы на сябе амаль усе вядомыя славянскаму свету навалы, несучы заўжды жахлівыя страты, усведамляючы найперш сваю ахвярнасць і трагіку войнаў, продкі нашыя, мабыць, як ніхто звядалі цану міру, пагамоўнасці як важнейшай умовы быцця, суіснавання. Названае тут нельга атаясамліваць з падатлівасцю альбо пасіўнасцю ад змогі альбо недаразвітасцю пачуцця годнасці. Справа ў іншым: беларус не лічыць за разумнае годнасць сваю сцвярджаць, аспрэчваючы правы іншых быць (альбо проста "слыць") магутнейшымі, багацейшымі, прыкметнейшымі.

Між тым, этнічны характар не можа азначацца асобнымі прыкметамі, бо кожная з іх уласціва ў пэўнай меры таксама іншым этнасам, ды і адвольна набраны пералік асаблівасцяў мала што дае. У нашым выпадку неабходна распрацоўваць адпаведную сістэму падыходаў.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Праз паўгадзіны мы, нагружаныя кашамі зь ежай, вырушылі да гумна. Бамбіна праводзіла нас зь ліхтаром у руцэ.

Хлопцы весела прывіталіся зь ёй. Ванька Бальшавік завіхаўся ля нашай гаспадыні, засыпаючы яе рознымі кампліментамі. У нейкі момант штосьці сказаў. Я не пачуў тых слоў.

-- Не для пса каўбаса! -- адцяла Бамбіна.

-- Мудра! -- прамовіў Лорд.

-- Кажу і сцьвярджаю, хлопцы, -- з натхненьнем прагаварыў Камета, -- што наша Бамбіна -- гэта студня з мудрасьцю! Куфэрак з золатам, а не баба!

-- Кругом шаснаццаць! -- дадаў Шчур.

-- У такім выпадку, -- казаў далей Камета, -- трэба выпіць. Няхай Бамбіна жыве сто гадоў!

-- Пяцьсот! -- паправіў Лорд.

-- Тысячу! -- рычыць Шчур.

Бамбіна сьмяецца і выпівае з намі шклянку гарэлкі.

Скончылі есьці. Узяўшы ліхтар, Бамбіна паднялася.

-- Дабранач, хлопцы! Не кідайце тут акуркаў.

Пасьля, зьвярнуўшыся да мяне, прамовіла:

-- Зрабі ласку, дапамажы занесьці дахаты кашы.

Я зьбіраю ў кашы посуд, і мы выходзім з стадолы. Калі зачынялі вароты, пачуў голас Бальшавіка. Потым Шчур пырскае сьмехам і штосьці яму адказвае.

-- Мудра! -- разносіцца голас Лорда.

-- Кажу і сьцьвярджаю, хлопцы... -- пачаў гаварыць Камета.

Аднак што ён "казаў і сьцьвярджаў", я не пачуў, бо мы пайшлі ў бок хаты.

У пакоі паставіў на лаўцы кошыкі і хацеў вяртацца ў гумно.

-- Куды ты? -- паклікала Бамбіна.

-- Да хлопцаў... Спаць...

-- А са мной горш?

-- Не горш... але...

-- Што?

-- Не выпадае... Што хлопцы падумаюць?.. Будуць зь мяне сьмяяцца... кпіць...

-- Няхай сьмяюцца! Абы не плакалі!.. Табе што? Ці ты яшчэ такі зялёны, што баішся іх размоў?.. Я, бачыш, не баюся... Напляваць мне на ўсё!

Позна ўвечары, калі Бамбіна, пагасіўшы сьвятло, пачала засынаць, прыгадаў сабе Вялікую Мядзьведзіцу і тыя імёны, якімі назваў паасобныя зоркі. Прыпомніў, што да гэтага часу ня ведаю імя сваёй каханкі. Безумоўна, Бамбіна -- гэта не імя. Яна ўжо спала. Пабудзіў яе, тая, разамлеўшы, пацягнулася.

-- Ну?.. Чаго табе?..

-- Як цябе завуць?

-- А навошта гэта табе?.. Толькі дзеля гэтага разбудзіў мяне?

Яна была відавочна зьдзіўлена.

-- Ну так... Хачу ведаць...

Расьсмяялася, а потым адказала:

-- Лёня.

-- Лёня?.. Гэта значыць Леаніда? Так?

-- Так... Падабаецца табе?

-- Вельмі! -- шчыра адказаў я.

Яна пачала сьмяяцца. А пасьля гарачэй, чым звычайна, абняла мяне.

Ад таго часу, але толькі калі былі адны, называў яе Лёняй. А, цікуючы за сузор'ем Вялікай Мядзьведзіцы, пры сустрэчы вачыма зь яе сёмай зоркай заўсёды прыгадваў Лёню і... сумаваў па ёй.

Я заўважыў, што пасьля гэтай начы ў нашыя адносіны закралася больш цяпла і адданасьці.

Залаты сезон скончыўся. Двойчы клаўся снег, але хутка зьнікаў. У бліжэйшыя дні магла стаць "белая сьцежка". Гэта вельмі ўскладніла б нашу працу.

Хлопцы працавалі, напружваючы ўсе сілы. Хацелі найлепшым чынам выкарыстаць рэшту восені.

Для перамытнікаў канец залатога сезона закончыўся хваляй неспадзяваных няўдач. Пачалося з таго, што Цьвік "паклаў" сваю партыю. Яны засыпаліся на мяліне ў Саветах непадалёку ад граніцы. Іх высачыў падпольшчык Макараў. Я ніколі яго не бачыў, аднак шмат чуў пра яго ад хлопцаў.

Макараў сам некалі быў перамытнікам і хадзіў з групай кантрабандыстаў. Потым увайшоў у кантакт з чэкістамі і пачаў "крыць" групу за групай. Паколькі добра ведаў, як працуюць перамытнікі, дзе іх пункты, нарабіў нам шмат шкоды. Умеў лавіць і перамытнікаў, якія хадзілі "на ўласную руку". Ён увесь час увіхаўся на граніцы, хітра наладжваў на нас засады.

Хлопцы расказалі мне, як выглядае Макараў. Гэта быў высокі, моцны мужчына гадоў пад 40. Меў кароткую рыжую бараду і вялікі шрам ад нажа на левай шчацэ.

Вестку пра засыпку групы Цьвіка, якая налічвала 14 чалавек, прынёс Бронак Келб -- адзіны ацалелы перамытнік. Ноччу ён захацеў выйсьці за патрэбай на двор, але пачуў нейкія шоргаты і шэпт каля варот. Ня ведаючы яшчэ, што а[illegible]бываецца, на ўсялякі вып[illegible] залез пад сячкарню, якая с[illegible]ла справа ад увахода. Калі чэкісты ўваліліся ўсярэдзіну і пачалі выцягваць зь сена разасланых хлопцаў, ён, схаваны ў цяню пад сячкарняй, пра[illegible]дзеў, калоцячыся ад страху [illegible] канца вобыску. А калі чэкісты разам з арыштаванымі перамытнікамі выйшлі з гумна, выбраўся праз падваротню, якая была закладзена доўгай дошкай, і да раніцы, амаль што бягом, дабраўся да Польшчы і расказаў пра засыпку. Ракаўскія жыды (купец, які пасылаў тавар, і сваякі Юдкі Балеруна) выслалі ў Мінск Шлёму Жарабца, у якога там было шмат уплывовых знаёмых, і ён павінен быў пастарацца выкупіць у першую чаргу Юдку, а калі атрымаецца, і ўсю групу. У гэты ж дзень вечарам Шлёма з 5 000 даляраў, зашытымі ў халявы ботаў, пайшоў за граніцу разам з братам Цьвіка -- Міхалам Гарбатым.

Гэта была першая вялікая засыпка. У наступную ноч на мяжы, паблізу Волмы, нашы бааняры "пагналі ката" групе Кузьмы Стэрдона з Душкава. Двое хлопцаў папаліся ў нас, а трое ў Саветах; чацьвёра ўцалела. Потым заляцела Гэлька Пудзель з групы Бэлкі -- згубілася ў лесе каля Затычына (на савецкім баку) і дагэтуль не вярнулася. Пазьней, праз некалькі дзён, атрымалі страшную навіну: у пяці кіламетрах ад граніцы, у лесе, непадалёку ад Гараняў, знайшлі ў дрыгве пяць трупаў.

Гэта была група з Кучкуноў. Чэкісты пачалі шукаць канцы ў гэтай справе і арыштавалі шэсць сялян з Краснага, Ляхаў і Барсукоў. Яны кампаніяй палявалі на перамытнікаў і пад раніцу злавілі кучкуноўскую групу. Адабралі тавар, грошы, а пасьля завялі іх у дрыгву. Там пазабівалі ўсіх стрэламі з наганаў, трупы ж утапталі ў багну і замаскіравалі гальлём. Гэта зрабілі таму, каб справа не выкрылася, а мёртвыя не гавораць.

З намі таксама здарылася бяда. Ішлі з таварам за граніцу групай у дзесяць чалавек. На мяжы нас пагналі. Мы пачалі блытаць сьляды, пятляць. Ззаду грымелі стрэлы. Несьліся ў поўнай цемры, інстынктыўна адшукваючы шлях і рэагуючы на шоргат крокаў, каб не пагубляцца. Ужо былі ў кіламетры ад граніцы, аднак стрэлы гучалі без перапынку. Гэта была ўзмоцненая засада. Раптоўна я пачуў, як нехта войкнуў. Потым спатыкнуўся аб чалавека, які сядзеў на зямлі. Пераскочыў праз яго.

-- Хлопцы! -- пачуўся голас. -- Мяне падстрэлілі.

Я затрымаўся і паклікаў сяброў:

-- Стойце, хлопцы! За намі ўжо не гоняцца!

Усе спыніліся. Мы вярнуліся да параненага. Гэта быў Алігант. Куля прашыла яму лытку на левай назе. Ісьці далей ён ня мог. Пасьля кароткай нарады вырашылі вяртацца, несучы ўдвух па чарзе параненага. Тады адгукнуўся Мамант:

-- Я сам аднясу яго да Ракава... Здужаю... Вы шуруйце далей...

Мы зноў пачалі раіцца. Нарэшце дамовіліся, што Шчур і Мамант вернуцца з Алігантам у мястэчка, а мы з таварам пойдзем далей. Зрабілі параненаму перавязку з падзёртай на палоскі кашулі, а пасьля Мамант ускінуў яго, як барана, на плечы. Шчур пакрочыў першым, каб разьведваць яму дарогу. Свае ношкі яны пакінулі нам. Лорд хацеў узяць сабе яшчэ адну, але як праваднiку яму гэта было зацяжка. Таму зрабілі так: Болек Камета, Ванька Бальшавік і я ўзялі па дзьве ношкі.

Шчасьліва дабраліся да пункта. А на зваротным шляху нас зноў абстралялі. На гэты раз безвынікова. Мамант і Шчур "гладка перакінулі" параненага Аліганта праз граніцу і занесьлі дахаты.

Калі ж пасьля здарэньня з Алігантам мы вырушылі ў дарогу, дык я, абцяжараны падвойнай ношкай, праз сілу рухаўся наперад, стараючыся не згубіць з вачэй чатырохкутнік шэрай плямы на плячах Лорда. Раптам мне пачало здавацца, што гэта не ношка, а надмагільная пліта і што на ёй павінны быць выбіты імя і прозьвішча, даты нараджэньня і сьмерці. Уяўленьне нават пачало маляваць на фоне гэтай "пліты" знак крыжа і эпітафію. Мне падумалася: "Ходзім па начах з магільнымі камянямі за плячыма. А я нават цягну дзьве гэтыя пліты!"

Так, цяжкая і небясьпечная прафесія перамытніка! Аднак адчуваў, што кінуць яе мне было б цяжка. Прыцягвала яна, як какаін... Вабілі нашы таямнічыя начныя падарожжы. Прыцягвала нервовая напружанасьць, гульня са сьмерцю і небясьпекай. Я люблю вяртаньні з далёкіх цяжкіх вандровак. А пасьля: гарэлка, песьні, гармонік, вясёлыя твары хлопцаў і дзяўчат... якія кахаюць нас не за нашыя грошы, а за сьмеласьць, адвагу, вясёласьць, разгульнасьць і пагарду да грошай... Мы нічога не чытаем. Палітыкай увогуле не цікавімся. Ужо некалькі месяцаў ня бачыў газет. Усе нашы думкі вірують каля адной тэмы -- граніцы. А пачуцьці каля некалькі іншых, у залежнасьці ад густу і тэмпераменту: гарэлка, музыка, песьні, гульні ў карты, жанчыны.

Я заўважыў, што ўжо два тыдні, як для нас пачаліся "чорныя" дні -- на небе не было Вялікай Мядзьведзіцы, -- яе зацягнулі хмары.

Калі масалкі падстрэлілі Аліганта, я, вярнуўшыся з-за мяжы, пайшоў да Маманта, каб даведацца, як яны перакінулі параненага. Пераступіўшы парог яго беднай хаты, убачыў дзіўны малюнак. Мамант, нязграбны, цяжкі, нібы мядзьведзь, стаяў пасярэдзіне пакоя. На ягоным карку сядзеў пяцігадовы хлопчык і паганяў "каня" вяроўчынай. Другі хлопчык, трохі старэйшы, паганяў татку ззаду, стоячы на падлозе.

Седзячы на перавернутых дагары начоўках, да гэтай забавы прыглядалася і весела сьмяялася малая дзяўчынка. А Мамант, удаючы каня, няўклюдна скакаў па хаце цяжкім галопам і ржаў... Гэта быў лагодны і самы лепшы з людзей, якіх я калі-небудзь ведаў; ён быў з тых, каго лёгка ашукаць, пакрыўдзіць, абадраць. І адначасова гэта быў ламброзаўскі тып, пры зьяўленьні якога перад турэмнымі кратамі газеты пісалі б [illegible] пануры пагляд забойцы, пр[illegible]менны выраз твару, пазбаўлены людскіх пачуцьцяў, пазначаны пячаткай злачынства, і пра зьвярыныя інстынкты дэгенерата" і г.д. ... пра бедака, безабароннага, нібыта хворае дзіця.

Калі я ўвайшо[illegible]пакой, жонка Маманта, ма[illegible] худзенькая жанчынка, паказваючы рухам рукі на Маманта, прамовіла:

-- Звар'яцеў! Зусім звар'яцеў! Ён заўсёды такі... Увогуле ня мае розуму... Як яго не паб'ю, дык вар'яцее! Без лаянкі ня можа абысьціся!

А конь -- Мамант стаяў пасярод хаты -- вялікі, цяжкі, пераканаены ў сваёй страшнай правіне. На яго вуснах блукала кранальная ўсьмешка. Вачыма ён маліў жонку, каб пакінула яго ў спакоі хоць бы пры чужых людзях. Я ня думаў, што ў Маманта такая вялікая сям'я, бо ў калысцы вісела яшчэ адно дзіця.

Калі вярнуўся дахаты, даведаўся, што Юзік Трафіда прыслаў ліст, у якім паведамляў пра свой шасьцімесячны арышт, які будзе адбываць у навагрудскай турме.

Мяне вельмі непакоіла Трафідава сястра -- Гэля. Дзяўчына ходзіць сумная, задуменная. Некалькі разоў бачыў яе з заплаканымі вачыма. Ня раз заўважаў, як увечары цішком выходзіла з хаты. Аднойчы я вырашыў пасачыць. Лепей бы гэтага не рабіў!.. Заўважыў, як на зьмярканьні Гэля спаткалася на мосце з Алінчуком і пакрочыла зь ім за мястэчка. Калі б дома быў Юзік, перадаў бы яму, каб той засьцярог сястру перад Альфрэдам, расказаўшы пра заляцаньні апошняга да шматлікіх местачковых дзяўчат і да Фэлі. Сам жа гаварыць ёй пра гэта ня мог, паколькі яна ня так мяне зразумела б. Магла падумаць, што зайздрошчу. Гэля вярнулася са спатканьня зьбялеўшай, засмучанай. На яе твары прыкмеціў сьляды сьлёз. І я нічога ня мог зрабіць.

Я вельмі пасябраваў зь Янінкай. Калі вечарам бываю ў пакрі, дзяўчынка абавязкова прыходзіць да мяне і апавядае розныя фантастычныя гісторыі пра птушак, зьвяроў, пра тое, што кажуць дрэвы і кветкі. Адкуль у гэткай малой такая фантазія? Цікава, якой яна будзе праз некалькі гадоў, калі стане дарослай паненкай?

Сёньня раніцай прыйшоў Лорд. Заўважыў, што ў пакоі ёсьць Янінка, і вымавіў:

-- Выйдзі на хвілінку. Я хачу табе нешта сказаць.

Дзяўчынка паглядзела на нас і зь неспадзяванай паважнасьцю зазначыла:

-- Можаце казаць усё. Я ў гэтым разьбіраюся... Я чужыя сакрэты ня слухаю і не выдаю!

Лорд, засьмяяўшыся, ухапіў яе пад пахі і падняў угару.

-- Гэтага я не люблю! -- прамовіла Янінка.

-- Выбачайце, пані! -- нізка нахіліўшыся, адказаў Лорд.

-- Калі ласка. Я не разгневалася... А зараз пайду, а вы паразмаўляйце "свабодна".

Выйшла з пакоя.

-- Гэта будзе нумар! -- адзначыў Лорд.

-- Добрае дзіця, -- прамовіў я.

-- Дзіцё! -- адказаў Лорд. -- Гэтая сікса ўсім нашым марухам фору дасьць... Такая разважнасьць... Фу-ты, ну-ты!..

-- Што хацеў сказаць? -- запытаўся я Лорда.

-- Будзе "агранда".

-- Калі?

-- Сёньня ідзём у дарогу. На зваротным шляху нясём скуркі. Разумееш?

-- Так.

-- Ну, і зробім агранду ў лесе, непадалёку ад граніцы. Сезон канчаецца, трэба крыху адрамантавацца да зімы.

-- Хлопцы пра гэта ведаюць?

-- Самі прасілі... На гэта намаўлялі Камета, Шчур і Мамант.

-- Каб хто-небудзь не заляцеў!

-- Ну, цяжка, але неяк абыдзецца. Трэба збольшага направіцца. Сем месяцаў усё ішло гладка. Адну завалім. Папярэджваю цябе, каб ведаў. Калі будзем уцякаць, трымайся мяне.

-- Добра.

Вечарам таго дня вырушылі ў дарогу. Тавар ішоў каштоўны: шаўро, лакеркі, хром, баціставыя і ядвабныя панчохі! Ношкі былі па 40 фунтаў.

На пункт прыйшлі каля трэцяй гадзіны ночы. Хлопцы накіраваліся да гумна, а я разам з Лёўкам папраставаў да хутара. Хлопцы спачатку падколвалі з майго раману з Бамбінай, асабліва Ванька Бальшавік. Але аднойчы Шчур сказаў яму:

-- А табе шкада?.. Вочы вылазяць ад зайздрасьці! Мела рацыю Бамбіна: не для пса каўбаса!

Потым усе пагадзіліся з гэтым, тым больш калі прыкмецілі, што Бамбіна пачала лепей дбаць пра нашае "карыта". Зараз, прыйшоўшы на мяліну, яны кіраваліся да гумна, а я разам з Лёўкам крочыў у хату. Часам толькі Бальшавік не вытрымліваў і казаў: "Падайся на цёплыя ножкі!"

Бамбіна адамкнула нам дзьверы. Не зьвяртаючы ўвагі на прысутнасьць Лёўкі, яна абняла мяне гарачымі пульхнымі рукамі. Затым, хутка адаслаўшы Лёўку спаць у бакоўку, вярнулася вясёлая, узбуджаная і нецярплівая. Дапамагла мне зьняць намочаныя да каленяў боты і адзеньне. Раніцой я знаходзіў усё сухім і чыстым. Мне было зь ёй добра. З часам я заўважыў, што яна пачала мяне па-іншаму кахаць... неяк пяшчотней, чульлівей. І я ўсё мацней прырастаў, нават сумаваў па ёй, калі доўгі час не бачыў Лёні. Пераканаўся, што розьніца ў гадах не замінала нам. А часам яна нават падавалася маладзейшай -- столькі ў ёй было рухавасьці, сьмеху і нейкай дзявоцкай бяздумнасьці.

Назаўтра вырушылі ў зваротны шлях. Несьлі скуркі. За плячыма я нёс 380 скурак алтайскай вавёркі (19 пачак па 20 скурак у кожнай). Ношка атрымалася надта важкай. Астатнія хлопцы таксама несьлі скуркі -- толькі вавёрчыныя.

Дарога была незвычайна цяжкая. Ноч -- чорная, нібы смала. Мясцовасьць -- гразкая, ліпучая, як той дэкстрын. Падобныя на мух, мы цягнуліся па балоце, з высілкам дастаючы з глебы свае ногі. Тры разы адпачывалі, пакуль падышлі да граніцы недалёка ад Затычына, дзе надумалі зрабіць агранду.

Працяг.

Пачатак у №№ 29—37.

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# ДУХОЎНЫ ГЕНАТЫП БЕЛАРУСА Ў ТРАДЫЦЫЙНАЙ І СУЧАСНАЙ КУЛЬТУРЫ

Рэальна ж пануе бессістэмнасць, што сутыкаецца з грубай блытанінаю, вядзе да ўтварэння стэрэатыпаў, асабліва падларадкаваных надзённасці, палітычнай кан'юнктуры. Згадаем некаторыя відавочныя моманты.

Як правіла, неадэкватна ўжываецца ў нас паняцце "менталітэт", першаснае значэнне якога звязанае з духам, душою, духоўнасцю. А нашы публіцысты (і нават даследчыкі) скарыстоўваюць гэтае слова ў сэнсе недапушчальна шырокім, а таму неакрэсленым: этнагенетычныя асаблівасці, праграма роду, культурна-гістарычны тып, лад жыцця і паводзін, комплекс псіхадынамічных рысаў, спадчына гістарычнай свядомасці, мадэль светабачання, прынцыпы светаадлюстравання, традыцыйная сістэма вобразатворчасці...

Прычым журналісты звычайна дакараюць беларуса за тое, што ён не падобны да паляка, немца, француза, шведа, амерыканца. Шукаючы вызначальнае ў прыродзе беларуса, апошнім часам яны звяртаюцца да быццам бы універсальных тэорый. Напрыклад, са старажытнай усходняй філасофіі запазычваецца пасыл, што ў прыродзе нацыі ўсё абумоўлена ці то мужыцкім, ці то жаночым пачаткам -- адпаведна мы нясем пачатак жаночы, што азначае пасіўнасць, залежнасць, падпарадкаванасць. Дзеля падобных высноў этнагенез і сучасны стан свядомасці беларускай нацыі высвечваюць моднай канцэпцыяй "пасіянарнасці" Л. Гумілёва. Як на пачатку стагоддзя, асабліва ў 20-я гады, заўважаюцца спробы падкрэсліць арыйскія карані беларускасці. А каб узмацніць адрозненне ад уласна рускага ў сучасным разуменні, перабольшаная ўвага надаецца балцкаму субстрату як нібыта вызначальнаму ў фарміраванні беларускай этнічнай супольнасці.

Уласна, любы захад у пошуках можа прынесці пэўны плён. Разам з тым у публіцыстыцы навідавоку тэндэнцыйнасць, абумоўленая надзённапалітычнымі праблемамі, а навука ўсё яшчэ трымаецца за агульныя, адцягненыя, а паводле вынікаў, безадносныя да беларускага матэрыялу, тэорыі.

І гэта ў той час, калі зусім не скарыстаныя магчымасці **іманентнага аналізу** прадметам якога павінны стаць адвечныя і незнаёмыя, а таксама і падлеглыя доследнаму вывучэнню паказчыкі адметнасці. У першую чаргу маецца на ўвазе тое, што ўласціва мове як **коду супольнай** памяці, мастацтву слова як асноўнай **форме перадачы своеасаблівага светаадлюстравання,** духоўнай культуры як **жывой і дзейснай** спадчыне.

Трэба пагадзіцца, што мова так ці інакш нясе "заматрыцаваны нацыянальны ген" (А. Яскевіч), нават на ўзроўні гукаў, па-свойму насычаных зместам, не ва ўсіх мовах аднолькавых па частаце выкарыстання, магчымасцях спалучэння, працягласці, асімілятыўнасці... Не заўсёды пераканаўчымі становяцца распрацоўкі гэтага плана, калі мова вывучаецца толькі на фанетычным і марфалагічным узроўнях. А вось лексічныя і сінтаксічныя адметнасці ўсведамляюцца без асаблівых цяжкасцей, нават пры павярхоўным знаёмстве. Прыкладна тое ж самае адбываецца ў выпадках з інтанацыйным ладам, семантычна-асацыятыўнымі магчымасцямі.

Мабыць, няма больш надзейнага люстэрка этнічнай (нацыянальнай) свядомасці, чым народная афарыстыка. Таму, імкнучыся да поўнага, дакладнага ўяўлення [illegible] сваю "самасць", мы па[illegible]ы вызначыць тыя нацыянальныя прыказкі, прымаўкі, выслоўі, якія можна лічыць апорнымі, тыя, якія адлюстравалі спаконвечны вопыт і перадаюць выпрацаваныя на яго падставе **зап[illegible]**. Да такіх, нам здаецца, м[illegible]на аднесці наступныя:

- **Няма лепшага за той куток, дзе вязалі пупок.**
- **Чужая старана тугою арана, слёзкамі засявана.**
- **На каго людзі -- на таго і Бог.**
- **Нявінная кроў не ўтоіцца.**
- **На праўдзе свет стаіць.**
- **Якая справа, такая і слава.**
- **Спагадай свет трымаецца.**
- **Згода будуе, нязгода руйнуе.**
- **Дармавога няма нічога.**
- **Паміраць збірайся, а жыта сей.**

Вядома, фальклор адлюстроўвае жыццё ва ўсіх супярэчнасцях, у бясконцым змаганні дабра і зла, самаахвярнасці і самалюбнасці, высакароднага і грубага. Так што не выкасаваць з агульнага фонду назапашаных выслоўяў і тыя, якія даводзяць процілеглае. Напрыклад:

- **Там добра, дзе нас няма.**
- **Чыя сіла, таго і праўда.**
- **Хто круціць, той і мае.**
- **Дурных праца любіць.**

Але не яны нясуць характэрны для беларусаў светапогляд і спадчынны маральны кодэкс, адметнасці мыслення і выказвання. Каб удакладніць гэта, звернемся да народнай легенды "Пра долю" (Гл.: Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі. Мн., 1983), якая мае вось такі, на першы погляд, парадаксальны змест: Ісус Хрыстос, які хадзіў са сваімі вучнямі па вёсцы, працавітай, душэўнай, спагадлівай дзяўчыне наканоўвае жыць у шлюбе з мужыкомгультаём, растлумачыўшы: "...Калі даць ёй добрую долю, дык яна збалуецца". Гэтае (самім народам знойдзенае!) тлумачэнне дае ключ для раскрыцця беларускага светапогляду і характару.

Істотна таксама ўважліва асэнсаваць сістэму жанраў вуснай народнай творчасці -- паводле меркаванняў спецыялістаў, самай глыбіннай, старажытнай і захаванай, калі параўноўваць з братнімі і суседнімі народамі, -- прынамасці тое, што беларусы **не маюць** у чыстым выглядзе **гераічнага эпасу,** падобнага да рускіх былінаў, украінскіх думаў, сербскіх эпічных песняў. Гэта, бадай, не выпадкова і для этнахарактаралогіі важна не меней, як асаблівасць адваротная -- надзіва развітыя і разнастайныя жанры каляндарна-абрадавай паэзіі.

Праўда, для сучасных пакаленняў фальклор страчвае функцыянальнасць, а ў пэўнай меры і значнасць. З другога боку, прафесійнае мастацтва слова арыентуецца ўсё больш на тую сістэму каардынат, у якой знікаюць выразныя прыкметы нацыянальнага. Таму радаводная памяць, спрадвечная існасць, традыцыйныя прынцыпы вобразатворчасці за рэдкімі выключэннямі не вывучаюцца разам на матэрыяле фальклору і прафесійнай літаратуры апошняга часу.

Каб атрымаць глыбокае разуменне духоўнага генатыпу, неабходна сабраць поўныя звесткі пра частотнасць тэм, матываў, вобразаў у мастацтве, вызначыць іх "узрост", функцыянаванне ў розныя часы, дачыненне да сферы сакральнага, уплыў на развіццё агульнай вобразнай сістэмы і на эстэтычныя традыцыі. Такіх абагуленых распрацовак, на жаль, пакуль што няма. Таму паспрабуем акрэсліць беларускае нацыянальнае светаадлюстраванне паводле ўласных даследчыцкіх вынікаў.

Шматлікія назіранні паказваюць, што існуе спецыфічны беларускі хранатоп (сваё адчуванне часу і прасторы). Пры ўвасабленні прасторавага руху творы фальклору і прафесійнага мастацтва беларусаў значна часцей і выразней, чым, напрыклад, рускіх, украінцаў, палякаў, а тым больш генетычна аддаленых народаў, увасабляюць засяроджанасць на **мяжы, сумежжы, перасеку, развіліне, раздарожжы, ростані, скрыжаванні.** Прымушае задумацца і своеасаблівая мадэль утварэння на[illegible] бакоў свету: **поўдзень** і **п[illegible]ач,** а таксама наяўнасць такіх паняццяў як **небасхіл, небакрай, небаскат.**

Рух часу ў беларускім светаадлюстраванні таксама набывае с[illegible]саблівыя акцэнты на стад[illegible] **пераходу.** Скажам, часцей паэтызуецца вясна і восень, а не зіма ці лета. Спецыфічна беларускае -- вылучэнне **пярэдадня, конадня, надойсця.**

Пра гэта яскрава сведчыць народны каляндар. Чамусьці асаблівае значэнне беларусамі надаецца святу, якое, апроч усяго, мае надзіва шмат сімвалічна-персаніфікацыйных назваў: **Купалле, Купаллё, Купалля, Купалялё, Купала, Купалейка, Купало, Купава, Купайла, Купайло, Купалка, Купалачка, Купалінка, Купальнічак, Купалеш, Купаліі Купалочка, Купальначка, Купальская ноч...** Пад любым найменнем, пры ўсіх варыянтах абраднасці гэтае свята азначае не што іншае, як **мяжу** прыродных цыклаў, сонцаварот перад стадыяй новага кола, надойсце касмічных зрухаў. Не выпадкова, што ў купальскіх абрадах асаблівае значэнне маюць **узмежныя фазы** -- змярканне, калі вогнішчы распальваюцца; поўнач, калі трэба шукаць папараць-кветку; досвітак, калі падлільноўваюць, як "сонца грае". Важна падкрэсліць: Купалле -- не свята Іаана Хрысціцеля, а **пярэдадзень,** а ў ім самім пры пільным разглядзе вылучаюцца яшчэ дзве папярэднія (самому Іванаву Дню) пары -- купальская ноч і (асобна) світанне.

Падобна да Купалля беларускі народны каляндар вызначае цэлы шэраг вялікіх святаў. Возьмем **Каляды.** Гэта не пачатак новага месяца, як у старажытным лацінскім значэнні. І не пачатак новага года, як замацавана заходнехрысціянскай традыцыяй. Гэта і не сам Дзень Ражаства Хрыстовага, а **пярэдадзень** яго. Тое самае прыкладна і са **Шчадрухаю,** Шчодрым вечарам (перад Новым годам), і **Грамніцамі** (Стрэчаннем Гаспада), і **Благавешчаннем** Багародзіцы, якому папярэднічае язычніцкае, менавіта ў беларусаў захаванае, свята **Камаедзіцы.** Вядома, тут узнікае асобны аспект -- спалучэнне паганскіх святаў з хрысціянскімі, што патрабуе самастойнага разгляду.

Паказальна, што мастацтва беларусаў далёка не аднолькава адлюстроўвае поры дня. Назіраецца большая ўвага да вечара і раніцы, зноў-такі **памежных** фазаў. Асаблівую семантыку, нават у параўнанні з мастацтвам блізкароднасных этнасаў, беларусы надалі раніцы. Не валодаючы надзейнай статыстыкай, спынімся на такім прыкладзе: прозвішчымянушкі станоўчых герояў беларускіх казак утвараюцца даволі часта па асацыяцыі з гэтай парою: Іван Світаннік, Ранішнік, Заранка, Заравы, Зоркін. Іншыя часы дня да казачнай анамастыкі не маюць такога дачынення.

Самая ўлюбёная "візія неба" -- не дзённая. І не ўраўнаважна начная. Сонца, натуральна, па жыццядайнасці, уплыву на распарадак жыцця нішто не заменіць. Але выходзіць як быццам адпаведна выразу народнаму: за працаю сонца не бачым. Затое ў лірычным сузіранні больш за ўсё прыкмячаюцца **зоркі-знічкі, месяц-маладзік,** таксама зорка-дзянніца і поўня. Як бачым, у іх таксама значэнне **пераходнасці, мяжы зменаў.** А яшчэ варта асобна адзначыць такі беларускі вобраз, які не мае, відаць, аналагаў, -- "Сонца маладзіковае".

З шырока распаўсюджаных у фальклоры і трывала замацаваных у сучасным мастацтве можна яшчэ назваць наступныя вобразы: васілёк, грушадзічка, жалейка, курган, крыніца, шыпшына...

Пералік гэты можна доўжыць, але ён нічога не дае без аналізу і сістэматызацыі, якая патрабуе асобнай гаворкі.

Гэтым разам наша задача была ў тым, каб скласці агульнае ўяўленне пра "апазнавальныя знакі" духоўнага генатыпу беларуса скрозь прызму мастацтва.

**Іван ЧАРОТА.**

---

*І ЗНОЎ ПРА КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ*

# БУДЗЕМ ВЕРЫЦЬ У ЦУДЫ

У адным з апошніх нумароў "Звязды" пад рубрыкай "Сенсацыя?" надрукавана заметка "Магчыма, Крыж Ефрасінні Полацкай і не пакідаў Магілёў?" Адказ на гэтае пытанне спрабуе даць КДБ...

Як стала вядома з інтэрв'ю, якое даў газеце "Магілёўскія ведамасці" супрацоўнік прэс-групы ўпраўлення КДБ Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці Сяргей Багдановіч, следчыя мерапрыемствы па пошуку вялікай гістарычнай і мастацкай каштоўнасці беларускага народа -- Крыжа Ефрасінні Полацкай далі пэўны плён.

Пошукі рэліквіі, якая знікла ў час апошняй вайны, працягваюцца ўжо 4 гады. Цікава, што, як мяркуе следства, магчыма, Крыж і не пакідаў Магілёў. Гэта адна з пяці версій, якая адпрацоўваецца следчымі камітэта. Другая з асноўных версій арыентуецца на тое, што Крыж разам з іншымі каштоўнасцямі быў эвакуіраваны ў Расію. У бліжэйшай будучыні, як заўважыў Сяргей Багдановіч, будзе праведзены шэраг мерапрыемстваў, якія павінны значна прасвятліць сітуацыю ў гэтым плане, і тады можна будзе гаварыць аб канкрэтных выніках.

З пытаннем, ці можна сёння што-небудзь сказаць аб нашай нацыянальнай рэліквіі нумар адзін -- Крыжы Ефрасінні Полацкай, -- наш карэспандэнт звярнуўся да кіраўніка Скарынаўскага цэнтра і старшыні камісіі "Вяртанне" Адама Мальдзіса, які расказаў наступнае:

-- Мяне не пакідае думка, што ён знаходзіцца ў ЗША. У свой час мы з Пятром Краўчанкам хадзілі ў Нью-Йорку ў Фонд Пірпонта Моргана, і там былі пэўныя моманты, якія нас насцярожылі. Калі б Крыжа не было на тэрыторыі ЗША, адказ на наш запыт быў бы іншым. На наш зварот адказу не было прыкладна два месяцы, а потым паведамілі: "У Фондзе Пірпонта Моргана гэтага Крыжа няма, а за іншыя прыватныя калекцыі мы ручацца не можам". Падставы лічыць, што Крыж Ефрасінні Полацкай захоўваецца недзе ў Амерыцы, ёсць. І магчыма, што ён трапіў у Амерыку не праз Германію, а праз Расію. Апошнім часам у магілёўскай прэсе (а менавіта ў Магілёве захоўваўся Крыж) з'явіліся публікацыі пра людзей, якія вывозілі каштоўнасці ў Маскву, дзе іх у банку аглядаў Берыя. Але гэта не выключае магчымасці таго, што яны потым маглі з Масквы трапіць у Амерыку, а маглі і асесці ў прыватных зборах у Расіі. Але я не страчваю надзеі, што Крыж Ефрасінні Полацкай будзе знойдзены. Я, як кіраўнік Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, папрасіў балгарскую беларусістку Венету Георгіеву-Козыраву звярнуцца да славутай Ванґі. Дык вось Ванга сказала: "А чаго гэта беларусы непакояцца? Праз пару гадоў іх Крыж знойдзецца". Другая ж балгарская прадказальніца намалявала цэлы план таго, як "падарожнічаў" Крыж Ефрасінні Полацкай, і нават апісала дом, дзе ён цяпер знаходзіцца. І зноў усе шляхі вядуць у ЗША, і зноў узнікае прозвішча Моргана. Прадказальніца, якая ніколі не чула гэтага прозвішча, без усялякай падказкі, доўга мучылася, гаворачы "Мер...", "Морс...", нарэшце, вымавіўшы -- "Морган", і назвала штат, дзе, на яе думку, цяпер знаходзіцца Крыж. Падставы для пошуку ёсць, але зноў-такі, хто гэтым зоймецца?

Будзем верыць Ванзе, што праз пару гадоў Крыж Ефрасінні Полацкай з'явіцца...

Будзем верыць у цуды...

Марыя ДУБОЎКА

# МАЕ САНАТОРЫІ І КУРОРТЫ

## УРЫВАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

Гаспадыня дазволіла мне рваць бацвінне з буракоў, і я варыла бацвінню, вельмі смачную, а людзі праходзілі міма і казалі: "А божа ж, траву ядуць". Там вельмі мала ўжываюць агародніну. Усё больш мучное, хлебнае.

Мыліся мы ў лазні па-чорнаму.

У хуткім часе пераехалі ў пакой ад школы — пакой адзін, вельмі вялікі, колішні клас. З прадуктамі ў вёсцы было цяжка, але Уладзімір Мікалаевіч хадзіў у ягады і грыбы, нарыхтавалі мы бульбы, капусту, збіраліся зімаваць. Алік бегаў то да бацькі ў кантору, то заходзіў у I клас, які знаходзіўся ў тым жа доме, дзе мы жылі, і сядзеў там за партаю альбо, часцей за ўсё, быў у полі, дзе капалі бульбу і пяклі яе ў попелу. Яго гарадскі выгляд прыцягваў увагу, усе яго запрашалі да свайго вогнішча, ён наядаўся печанай бульбы на восеньскім моцным паветры, дамоў прыбягаў толькі піць. Пап'е малака і зноў збяжыць. І ніколі больш у яго не было такой кругленькай, ружовенькай мордачкі, як там. Усё ішло добра. Але ў адзін непагодны восеньскі дзень на пачатку лістапада з'явіўся верхавы з пакетам -- Уладзіміру Мікалаевічу неадкладна з'явіцца з рэчамі ў раённы аддзел ДБ. Навошта, для чаго, ці надоўга -- нічога не вядома. Ён паехаў, а я засталася адна ў глухім незнаёмым сяле з маленькім дзіцем.

Пазней я атрымала паведамленне ад Уладзіміра Мікалаевіча, што яму загадана ехаць у Чэбаксары. І зноў жа не зразумела: ці ў турму, ці ў ссылку, і што ж мне тут рабіць. Я захварэла. Забалелі вушы. Спачатку лячылі вушы: кампрэсы і іншае. Я не магла легчы ні на адзін бок, сядзела і зрэдку, седзячы ў пасцелі, драмала. Урэшце, фельчар здагадаўся і даў мне брому. Мне стала лягчэй, і тут прыйшоў ліст з Чэбаксараў ад Уладзіміра Мікалаевіча, у якім ён пісаў, што ўладкаваўся на працу, атрымаў пакой і каб я збіралася. Збірацца, а як ехаць? Я вырашыла ехаць на конях. Выехалі мы з Алікам у зімовыя канікулы. Наняла я двух фурманаў, у калгасе далі двух коней, на адных санях зрабілі кібітку крытую для мяне і сына, на другія пагрузілі рэчы і адправіліся. 200 кіламетраў мы ехалі чацвёра сутак. Лес, прыпынкі толькі на кардонах. Зімовыя дні кароткія, спытаць дарогу ў прахожых мае фурманы баяліся, каб не выдаць, што мы здалёку. Малому вельмі цяжка было сядзець цэлы дзень апранутаму, у падушках і коўдрах. Я і казкі яму расказвала, і, як магла, забаўляла, а ў самой моташна на душы: едзем жа ўжо 3-ці дзень, потым -- 4-ты дзень. Адкуль я ведаю, магчыма, Уладзіміра Мікалаевіча там ужо няма. Магчыма, ужо нейкае новае распараджэнне перакінула яго бог ведае куды, і да каго я прыеду? І навошта? У дарозе, на прыпынках, пакуль у печцы разаграваласяя ежа, Алік нерваваўся, не мог дачакацца, і я звярнула ўвагу, што мае фурманы адразу, як толькі зойдуць у хату, пачынаюць есці. Аказваецца, яны клалі сабе за пазуху што-нішто на першы момант, каб не замёрзла. Я таксама пачала так рабіць. Загарну ў чыстую анучку або паперку піражок ці што там было, і мой Алік адразу меў што з'есці, як толькі распранаўся. Адзін начлег быў жудасны. Я ўсю ноч здымала з яго тараканаў.

### ЧЭБАКСАРЫ

У Чэбаксарах Уладзімір Мікалаевіч уладкаваўся сакратаром арбітражу ў Чувашсаюзе. Фактычна ён ужо ў Яранску вёў юрыдычную працу, так што яна для яго ўжо была знаёмая. У яго была вельмі добрая памяць, законы ён ведаў, выявіліся дыпламатычныя здольнасці. Так што, будучы сакратаром, ён па сутнасці быў кансультантам. Усе самыя цяжкія справы праводзіў ён. Дастаткова сказаць, што калі трэба было выехаць у Горкі па арбітражных справах, то камандзіравалі яго, нягледзячы на тое, што дзеля гэтага начальству Чувашсаюза трэба было хадайнічаць перад НКУС аб спецыяльным дазволе на выезд Уладзіміра Мікалаевіча за межы ўстаноўленага месца высылкі.

Ён валодае здзіўляючай уласцівасцю "абрастаць" людзьмі, сімпатыямі, і сам прывыкае да месца, да работы, да людзей, мабыць таму, што шмат сябе ўкладвае ў працу, сардэчна, душэўна ставіцца да ўсіх людзей, якія яго акружаюць, з прыемнасцю дапамагае і вучыць тых, хто менш за яго ведае, прычым ніколі не паказвае сваёй перавагі, радуючыся поспехам маладых і тых, хто расце на працы. Праз нейкі час яму далі кватэру ў доме Чувашсаюза, пры якім быў лапік зямлі.

Я прыехала з сынам у Чэбаксары ў зімовыя канікулы і нават не спрабавала шукаць педагагічную працу ў сярэдзіне навучальнага года (здаецца, 1933-34). Выпадкова даведалася, што пры школьна-прафілактычнай амбулаторыі НК Здрава ёсць вакантнае месца педалога. Хаця педалагічная і псіхалагічная падрыхтоўка ў мяне была даволі добрая, але ж я некалькі гадоў не сачыла ні за літаратурай, ні за практычнай працай у гэтай галіне і брацца за зусім самастойную работу без кіраўніцтва нейкі час не адважвалася, але выбару не было, працаваць трэба было, і я падала заяву і была залічана педалогам пры школьнай амбулаторыі.

Пачала я з таго, што пайшла ў школы (іх было 4 -- 2 дзесяцігодкі, 1 сямігодка і І пачатковая), устанавіла сувязі з настаўнікамі, у якіх былі цяжкія дзеці (слабыя вучні, недысцыплінаваныя), каб дапамагчы ім разабрацца ў прычынах і ліквідаваць гэтыя прычыны. Работа была цікавая і ў многіх выпадках вельмі эфектыўная, таму што зацікаўлены ў ёй былі і ўрачы, і настаўнікі, і бацькі. Я рабіла даклады аб выхаванні дзяцей на бацькоўскіх сходах. Водзывы аб маіх дакладах былі добрыя.

Аліка мы ўладкавалі ў дзіцячы сад. Па пастаноўцы працы ён быў добры, але памяшканне было цеснае, дзяцей было шмат, і Алік вельмі там стамляўся. Чакалі ліпеня 1935 года -- канца тэрміну высылкі. Надышло 20 ліпеня, і нас напаткаў новы ўдар. Тэрмін высылкі прадоўжылі на два гады, без тлумачэння прычыны. Уладзіміра Мікалаевіча гэта проста падрэзала. Не ведаю, аб чым ён думаў, а толькі сеў на падлогу, сціснуў рукамі галаву і доўга так сядзеў. Аб чым ён думаў? Можа, аб тым, што калі можна адзін раз прадоўжыць тэрмін, то чаму нельга гэта зрабі[illegible] далей, і да якога ж часу?

Мне было вельмі цяжка глядзець на яго, але дапамагчы я нічым не магла.

Наступны 1936 год абрынуўся на мяне пастановай аб скажэннях у педалагічнай працы.

З педалагічнай [illegible] я перайшла на педагагічную, узя[illegible]ршы клас. Прапаноўвалі ў НКА быць інспектарам, але мне захацелася на практычную работу.

На восеньскіх канферэнцыях настаўнікаў ставіўся даклад аб скажэннях у педалогіі і, зразумела, што кіраўнікі іх разлічвалі, што я павінна дапамагчы ім у выкрыцці скажэнняў. Я не спраўдзіла іх надзей. Два разы перапыняялі канферэнцыю і ўгаворвалі мяне выступіць. Я сказала, што выступаць так, як ім трэба, не магу, а выступіць так, як я магу, -- гэта пэўна ім не спадабаецца. "Вядома, не", -- сказалі мне і ўсё ж, нягледзячы на гэта, без папярэджання далі мне слова, верагодна, тайна спадзеючыся, што я не асмелюся выступіць так, каб гэта не спадабалася кіраўніцтву, тым больш, што я ж ужо была прызначана настаўніцай, як настаўніца ўдзельнічала на канферэнцыі, г. зн. была ў поўнай залежнасці. Я ўстала і каротка сказала, што так, я сапраўды вяла педагагічную працу, прычым у сваёй працы карысталася метадамі і інструкцыямі, якія атрымліваліся з цэнтра. "Я думаю, усім нам будзе цікава і карысна паслухаць настаўнікаў, з вучнямі якіх праводзілася работа. Хай яны скажуць, якую шкоду прынесла гэта праца".

Ніхто не выступіў, калі не лічыць адной вельмі дрэннай настаўніцы, якую трымалі на гэтай працы з меркаванняў гуманнасці: удава ці пакінутая жонка, трое дзяцей, змучаная да крайнасці, занятая сваімі сямейнымі справамі. Сама неўрастэнічка, прытым нястрыманая, яна не ўмела ўстанавіць дысцыпліну ў класе і казала, што ў яе "жахлівыя дзеці". А я спрабавала заверыць яе, што прычынай дрэннай дысцыпліны ў класе з'яўляецца яна сама. І ёй гэта не падабалася, і яна пралепятала нешта нечленараздзельнае, а паколькі яе вельмі добра ведалі і адміністрацыя, і настаўнікі, то выступленне гэтае зрабіла ўбогае ўражанне і яго ніхто не мог усур'ёз прыняць.

Работу ў школе я пачала, узброіўшыся ўсім новым, што дала методыка да гэтага часу, паколькі ўлетку я была ў Маскве і многае пераняла ад сваіх таварышаў па вучобе і працы ў Маскве. Адна з іх, якая працавала тады ў метадычным кабінеце, даведаўшыся, што я жонка Дубоўкі, які зараз у ссылцы, сказала: "Дубоўка -- гэта вялікае дзіця" (яна ведала яго, калі працавала ў Мінску, і ён зрэдку туды прыязджаў).

**Працяг.**
**Пачатак №№ 35—37.**



# БЫЎ ЯК ПАХОДНЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

У такіх умовах і Міхась Ткачоў у 1968 годзе паступае ў аспірантуру пры Інстытуце гісторыі АН Беларусі з намерам даследаваць залаты час беларускай дзяржаўнасці -- эпохі Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага. Аднак ідэалагічныя органы дапускалі толькі вывучэнне сацыяльна-акадэмічных пытанняў сярэднявечча. Дазвалялася пісаць пра тое, як цяжка і потна працаваў беларускі селянін на "літоўскіх феадалаў і польскіх паноў" і як ён ледзь не з часоў маманта імкнуўся "ўз'яднацца са старэйшым братам".

Таму малады даследчык выбірае, на першы погляд, "бяскрыўдныя" тэмы кандыдацкай, а затым і доктарскай дысертацый па абарончаму дойлідству і арганізацыі абароны беларускіх земляў у эпоху сярэднявечча. Плёнам навуковай працы стаў цэлы шэраг артыкулаў і кніжак, і з іх чытач даведваўся пра велічныя часы беларускай мінуўшчыны, што нашы продкі былі не толькі руплівымі земляробамі і рамеснікамі, але і бясстрашнымі ваярамі і выдат[illegible]і палкаводцамі, што байніцы бел[illegible]кіх замкаў былі звернуты не тол[illegible] да крыжацкай Прыбалтыкі і татарскага стэпу, але і ў іншых кірунках, у тым ліку і на Усход. Найважнейшым палеткам для сяўбы незалежніцкіх ідэй была моладзь, студэнцкае асяроддзе. Аднак трапіць на выкладчыцкую працу ў родны універсітэт "нацыя[illegible]ту" Ткачову было немагчыма. [illegible]равінцыі партыйны кантроль быў слабейшы, і ў 1978 годзе Міхась Ткачоў -- ужо выкладчык Гродзенскага педінстытута (зараз гэта універсітэт), а затым і загадчык кафедры. Намаганні вучонага-патрыёта і выдатнага лектара маюць адчувальныя вынікі. Тут паступова фармуецца калектыў аднадумцаў, шмат хто з выпускнікоў далучаецца да навуковай і адраджэнскай дзейнасці.

У 80-я гады стала магчымым пашырыць формы адраджэнскай працы. Распаўсюджваецца "нефармальны" культурніцкі рух. Ён найперш гуртаваўся вакол зберажэння і прапаганды гістарычнай і культурнай спадчыны. Барацьба за захаванне замкаў, бажніц і палацаў была змаганнем за гістарычную памяць, за Беларусь. Сярод суполак, што ўзніклі ў шэрагу гарадоў, найбольшае значэнне набыла мінская "Талака". У Горадні такім масавым патрыятычным аб'яднаннем стала "Паходня", душой і кіраўніком якой, зразумела, быў Міхась Ткачоў.

Потым пачалася гарбачоўская "перастройка". Яшчэ міліцыя на стадыёнах адбірала ў заўзятараў чырвона-зялёныя бэсэсэраўскія сцягі, а ўжо пачыналі мроіцца бел-чырвона-белыя штандары. Наступае час для палітычных дзеянняў.

Вясной 1986 года ў Траецкім прадмесці Мінска школьнікі, што сабраліся на "Гуканне Вясны" з бел-чырвона-белымі стужкамі на валасах, былі жорстка збітыя і разагнаныя "афганцамі", нацкаванымі парторганамі. Гэта выклікала актыўны пратэст у грамадстве. Напружанне расло. А затым чарнобыльскі выбух скалануў увесь кампартыйны гмах у Беларусі. І аказалася, что ў трэшчынах сістэмы не жалезабетон, а гніль і парахня. Рэжым, са старэчых рук якога пачынае выслізгваць абсалютная ўлада, яшчэ спрабуе прымяніць сілу на "Дзяды" 1988 года. Але ўжо актыўна фармуецца "Мартыралог Беларусі" -- першая фактычна палітычная ўсебеларуская арганізацыя, пачынае дзейнічаць аргкамітэт Беларускага народнага фронту і над шматтысячнымі шэсцямі і мітынгамі разняволенымі птушкамі раскрыліся нацыянадьныя сцягі.

Цэнтр вызваленчага руху выразна фармуецца ў Мінску. І таму ўзнікла пільная неабходнасць, каб асоба такога маштабу, як Міхась Ткачоў, была ў сталіцы.

Ужо смяротна хворы, без сталага жылля, нармальнага харчавання і жончынай апекі -- сям'я яшчэ заставалася ў Горадні -- Міхась Ткачоў не шкадаваў сябе ні на працы ў "Беларускай Энцыклапедыі", ні ў навуковых занятках, ні ў палітычнай рабоце, бо ўсё гэта было для Бацькаўшчыны. Ён актыўны і ў "Мартыралогу Беларусі", і ў Беларускім народным фронце. Сацыял-дэмакрат па перакананнях і нават па характару, ён адразу ж далучаецца да стварэння Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і становіцца яе бясспрэчным лідэрам. А як ён радаваўся абвяшчэнню незалежнасці, фармаванню нацыянальнага войска, узаконенню спрадвечнай беларускай сімволікі!

За лічаныя дні перад смерцю, перадольваючы знямогу, ён яшчэ едзе ў Смаргонь на сустрэчу з грамадоўцамі...

На Усходніх могілках у Мінску пахаванні беларускага адраджэнца з пачатку стагоддзя Я. Сушынскага і адраджэнца са схілу стагоддзя М. Ткачова. На "Дзяды" да іх прыходзіць шмат моладзі. Значыць, Паходня не згасла. Яна падхоплена надзейнымі рукамі.

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы з славутым земляком Б. КІТАМ. Міхась ТКАЧОЎ у цэнтры.**

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

## "ВЕРАСАМ" — 25

**Ансамблю "Верасы" споўнілася 25 гадоў. Гэту дату вядомы калектыў адзначыў на стадыёне "Дынама" вялікім канцэртным шоу, якое сумясціла мастацтва і спорт.**

**Павіншаваць "Верасы" прыехалі члены футбольнай каманды зорак расійскай эстрады "Старко". Яны сыгралі сяброўскі матч з прадстаўнікамі беларускага бізнесу і культуры. А пасля ігры адбыўся чатырохгадзінны канцэрт з удзелам вядомых зорак эстрады Расіі і Беларусі.**



**НА ЗДЫМКУ: нязменнага кіраўніка "Верасоў" Васіля РАІНЧЫКА віншуе Юрый МАЛІКАЎ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ**

ЗЯМЛЯ ЛЮДЗЕЙ

# ЗНІКАЕ ГРАБАЎЁ

На Пухаўшчыне Чарнобыль не нішчыў мястэчак і вёсак. Наадварот -- прытулак свой у пухавіцкіх мясцінах пасля чарнобыльскай бяды знайшлі перасяленцы "з зоны"... Ды ўсё знікаюць і ў гэтым куточку Беларусі вёсачкі.

Знікаюць, не пакідаючы за сабою ніякіх слядоў, тапанімісты нават не разгадалі яшчэ іх назвы. У энцыклапедыях няма пра іх артыкулаў. Добра, калі каторую з памёршых вёсачак згадала раз ці два раённая газета, то застанецца тады радок-сведчанне, радок-памяць.

Вось так і з тым Грабаўём, што калісьці існавала, жыло звычайным вясковым жыццём у Пухавіцкім сельсавеце Пухавіцкага раёна. Калі хто і ведае вёсачку, то толькі ў прасторы паміж цэнтральнай сядзібай калгаса імя Чапаева -- Зацітавай Слабадой і вёскай Раўчак.

Жыхары суседняй Зацітавай Слабады расказваюць: некалі ў голае поле, паблізу лесу, прыехаў звычайны чалавек з прозвішчам Грабоўскі. Пачаў будавацца, хутар сабе ладзіць, сад садзіць. Кажуць, што пасля рэвалюцыі яшчэ толькі адна сядзіба Грабоўскіх тут і была. Насыпаў пацыху Грабоўскі дарогу ад свайго хутара да Раўчака (усё ж там вёска, нейкі цэнтр).

Пасля да Грабоўскіх падсяліліся Белавусавы... І яшчэ нехта, і яшчэ... Людзям працавітым, неспакойным даспадобы былі гэтыя мясціны. Лес... Зараз тая мясціна, што падыходзіць да колішняга Грабаўя, як быццам і без назвы -- куток Старынкі. Сама ж Старынка -- ёмісты лясны масіў. А раней гэты куток быў тэрыторыяй заўважанай і адасобленай. Найперш -- па назве. Звалі грабаўскі лес Хмялінец. А што ў прамежку паміж хвойнікам і полем, што парасло кустоўем і алешнікам, усё гэта яшчэ і пятнаццаць, дваццаць гадоў назад звалі Грабаўскімі лажкамі. Першы Грабаўскі лажок... Быў і другі, і трэці... Арыенціры для грыбнікоў, для калгасных трактарыстаў, для пастухоў... Поле -- вялікае. Тут табе грабаўскім раздолле: жыта сей -- не хачу, грэчку, бульбу садзі... Толькі паспявай апрацоўваць.

Відаць, сялянам з Грабаўя крыху зайздросцілі ў вялікіх навакольных вёсках. Таму ж, пэўна, і казалі дзе-ндзе, жахаючыся, што невялікім ураджай будзе, што збажына раней тэрміну пасохне. "А ў Грабаўі дождж ідзе..." Ужо шмат пазней, калі ў вёсачцы пры лесе засталося ўсяго некалькі хат, старыя людзі жорстка-самаіранічна, з болем, што губляецца колішняя маладосць і іх як быццам паселішчаў, казалі і такое: "А што нам у цемры сумаваць... Пойдзем вось у Грабаўё на танцы..."

А тады, перад калгасамі, заможнае грабаўскае жыццё пачало раскідвацца. Белавусавых, Ількевічаў раскулачылі, мусіць, і яшчэ некага. Калгас (а тады ўвайшло Грабаўё асобнай брыгадай у раўчацкі "Ураджайны край") пазабіраў вызваленыя хаты.

А як прыйшлі немцы, той-сёй вярнуўся ў Грабаўё. І, лічы, уся вёсачка -- мужчынская яе палова -- падалася на службу ў паліцыю. Служылі ў Пухавічах, блізкім да Грабаўя мястэчку. Пазаймалі чужыя хаты. А ў сорак чацвёртым з немцамі ўцяклі. Ужо з самой Германіі іх павярталі.

А Грабаўё жыло яшчэ і пасля вайны. Праўда, распалася брыгада. На працу хадзілі ў Раўчак -- на ферму, паляводствам займаліся. Ды і той "ураджайны край" знік -- уліўся ў калгас імя Чапаева. А людзі патроху з Грабаўя раз'язджаліся: і непадалёку -- у Баравую (яна сёння вымірае), і ў мястэчка Пухавічы, і ў Маркаўшчызну, што бліжэй да шашы, ды і на Раўчак...

Новая бяда спрычынілася ў Грабаўі: вайскоўцы вакол вёскі палігон наладзілі. Танкі, разбітыя папеткі, траншэі, што апярэзвалі і поле, і лес, нібыта ў вайну... Заняткі, вучэнні ў лесе -- машыны, ахова... Часам боязна і па грыбы схадзіць... Так і разбегліся ўсе з Грабаўя. Хаты ж хто вывез, хто прадаў на вываз. Спачатку адметным следам-напамінкам заставаліся багатыя на яблыкі, грушы, слівы сады. Цяпер іх аблічча, іх прыналежнасці да вёскі не бачна. Як не бачна і следу грабаўскага. А колькі тых фальваркаў, засценкаў страчана намі ў мінулым стагоддзі?! Колькі хутароў знікла ў XX стагоддзі?! Колькі вёсак і вёсачак вымірае зараз, на нашых вачах?!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



У батанічным садзе АН Рэспублікі Беларусь прайшла канферэнцыя, якую правялі супрацоўнікі батанічнага сада і прадстаўнікі польскай фірмы. Год назад фірма прадастаўіла сваё насенне на апрабіраванне ў агародніцкі саўгас "Азёрны". Ураджайнасць гэтых культур перавысіла ўсе чаканні. Цяпер і беларускія агароднікі, садаводы-аматары могуць набываць высокаякаснае насенне гароднінных і кветкавых культур гэтай фірмы для пасадкі на сваіх участках.

У час канферэнцыі была разгорнута выстаўка-продаж насення кветак і гародніны, а таксама дэкаратыўных раслін, вырашчаных на базе гарадскога батанічнага сада.

**НА ЗДЫМКУ: выстаўка-продаж дэкаратыўных раслін.**

**Фота-Віктара ТАЛОЧКІ.**

*СПОРТ*

## ПЕРШЫ КРУГ ПРОЙДЗЕНЫ

Два тыдні назад футбалісты мінскага "Дынама", якія ўдзельнічаюць у розыгрышы Кубка УЕФА, з лікам 2:1 выйгралі ў каманды "Аўстрыя" (Вена). Гульня праходзіла на полі сапернікаў. Перамогу мінчан над адной з моцнейшых каманд Еўропы многія спецыялісты ацанілі як выпадковую. Казалі, што аўстрыйцы змогуць у гасцях адыграцца.

Не атрымалася. Ці дынамаўцы моцныя, ці сапернік сёння не той сілы, але факт застаецца фактам: і дома нашы футбалісты абыгралі "Аўстрыю" -- 1:0. З кім яны сустрэнуцца ў наступным крузе, стане вядома ў бліжэйшыя дні.

## У СВАЮ СІЛУ

У Аўстрыі завяршыўся чэмпіянат свету па мастацкай гімнастыцы. Беларускія спартсменкі прыехалі сюды без свайго лідэра Вольгі Гонтар. І таму два бронзавыя медалі: Ларысы Лук'янчык -- у мнагабор'і і каманды ў групавых практыкаваннях, можна лічыць вынікам закамерным. Адным словам, зборная Беларусі выступіла ў сваю сілу.

## УСЕ СТРАЦІЛІ АЧКІ

Стартаваў чарговы чэмпіянат каманд Балтыйскай лігі па баскетболу сярод жанчын. Гульні першага тура прайшлі ў Мінску."Ні мясцовы "Гарызонт", ні вільнюская "Целярына", ні каўнаская "Лайсве" не змаглі пазбегнуць паражэнняў. І таму гэтыя галоўныя прэтэндэнты на перамогу ў чэмпіянаце набралі пасля першага тура аднолькавую колькасць ачкоў: па пяць.

**Яўген ІВАНОЎ.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**У Мінску адбылася выстава-конкурс пад агульнай назвай "Транзіт". На ёй былі прадстаўлены работы мастакоў з Расіі і Беларусі. Нашу рэспубліку прадстаўлялі чатыры мастакі -- Фёдар Ястраб, Васіль Касцючэнка, Сяргей Даліловіч і Мікалай Бушчык.**

**Конкурс праходзіць у тры этапы: у Волагдзе, Мінску і Маскве.**

**У Маскве работы будуць экспанавацца ў вельмі прэстыжным месцы -- у Цэнтральным Доме мастака. Карціны мастакоў цікавыя і разнастайныя. У іх адчуваецца жаданне выкарыстаць сучасныя сродкі мастацкага ўвасаблення. У Маскве вызначацца пераможцы.**

**У Мінску ж прызавыя месцы занялі карціны В. Касцючэнкі, М. Бушчыка, Ф. Ястраба.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы С. РАДЗЮКА "Шахматны эцюд"; М. БУШЧЫКА "Паўночная ноч"; Ю. САЛОМКІНА "Страж".**

**Наталля РОЎДА.**



**Намеснік рэдактара**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5002. Падпісана да друку 2.10.1995 г.